

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1995
СТУДЗЕНЬ
4
СЕРАДА

№ 3/ 931

Цана 60 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### НА ТРАКТАРНЫМ КАНІКУЛЫ

Усё больш шырокія магчымасці для рэалізацыі сваёй прадукцыі атрымліваюць мінскія трактарабудаўнікі. Летась, напрыклад, наш «Беларусь» заваяваў перспектыўны рынак Пакістана.

Здавалася б, толькі радавацца ды працаваць. Але не. На гэтым, адным з самых буйных, прадпрыемстве рэспублікі пачаліся «канікулы». З-за адсутнасці камплектуючых завод спыніў работу і будзе вымушаны прастойваць да 9 студзеня.

Такое ж становішча назіраецца і на падшыпнікавым заводзе, заводзе шасцерань і іншых буйных прадпрыемствах сталіцы.

Анатоль РАМАНОВІЧ.

### ПАДЗЯКА ЗА ВІНШАВАННІ, ПАЖАДАННІ

Напярэдадні Новага года на адрас Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.І.Грыба паступіла вялікая колькасць цёплых віншаванняў, пажаданняў. Не маючы магчымасці пісьмова адказаць працоўным калектывам, грамадскім арганізацыям, дзеячам навукі і культуры, ветэранам — усім, хто прыслаў пісьмы, паштоўкі і тэлеграмы, М.І.Грыб вырашыў зрабіць гэта публічна.

— Я вельмі ўдзячны людзям за пажаданні аптымізму і поспехаў нашай рэспубліцы, Вярхоўнаму Савету і яго Старшыні, — сказаў М.І.Грыб. — Шчыра спадзяюся, што надышоўшы 1995 год стане паваротным у пераадоленні зацяжнога крызісу і гэта адчуе кожны жыхар нашай дзяржавы. Яшчэ раз хачу паўтарыць словы, сказаныя мной у пераднавагоднім інтэрв'ю беларускаму тэлебачанню: здароўя, шчасця, дабрабыту ўсім нашым сем'ям!

### НАШИ СЕРДЦА — БОЛЬНЫМ ДЕТЯМ

Выездные бригады Дедов Морозов и Снегурочек вместе с веселыми юными и взрослыми ряжеными артистами и помощниками порадовали в новогодние дни театрализованными поздравлениями тысячи больных детей и малолетних инвалидов, воспитанников детских домов Беларуси. Только в Минске, например, гостей с подарками принимали маленькие пациенты первой детской больницы, отделения патологии щитовидной железы первой клинической больницы, детских отделений НИИ ортопедии и травматологии, НИИ онкологии в Боровлянах, дети, страдающие гемофилией, ВИЧ-инфицированные, онкологические больные.

Новогодние праздники были организованы отделениями Детского фонда во всех областных центрах и районах. Увесистым оказался дедморозовский мешок с подарками благодаря поддержке откликнувшихся спонсоров — Христианского детского фонда, облисполкомов, торговой компании «Торвлад», ассоциации «Совно сфора», совместного предприятия «Бьютико», совместного предприятия «Дована», малого предприятия «БелаПАН», предприятия «Эскар», ПКП «Антурис».

Детское питание — подарок Детского фонда и фонда «Сити хоуп инторнейшинел» — получили все детские дома семейного типа, дети, страдающие заболеваниями крови, онкозаболеваниями, а также члены малообеспеченных, неполных и многодетных семей и несовершеннолетние инвалиды.

### ТЫСЯЧА ПОДПІСАЎ І ЮРЫДЫЧНЫ СТАТУС ГАРАНТАВАНЫ?

Днямі адбылося чарговае пасяджэнне Рады Беларускай партыі Свабоды.

Падчас яго разгледжана пытанне аб рэгістрацыі партыі ў Міністэрстве юстыцыі. Намеснік старшыні партыі спадар Сідорчык паведаміў, што сабрана 500 подпісаў сяброў-заснавальнікаў БПС, неабходных для рэгістрацыі. Але, улічваючы палітычную сітуацыю, якая апошнім часам значна ўскладнілася, удзельнікі пасяджэння падтрымалі прапанову старшыні заслаўскай суполкі партыі Вінцэся Манько аб тым, каб сабраць яшчэ столькі ж подпісаў і гарантавана набыць юрыдычны статус.

Сябры Рады выказалі таксама пратэст супраць уціску ўладаў на сродкі масавай інфармацыі.

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ.

### ЗА НОВОГОДНЮЮ НОЧЬ — ПЯТЬ МАЛЬЧИКОВ

По информации, полученной из семи столичных роддомов, в Новогоднюю ночь на свет в Минске появилось пять малышей. Примечательно, что все новорожденные — мальчики.

Елена КЛИМЕНКО.

### СУСТРЭЧА НЕ ВЫКЛЮЧАЕЦЦА

У гутарцы з карэспандэнтам БЕЛІНФАРМа Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не выключыў магчымасці сустрэчы з вядомым амерыканскім мільярдэрам і мецэнатам Джорджам Сорасам, візіт якога ў Беларусь запланаваны на студзень новага года. «З усімі, хто прапануе нам сёння дапамогу, я іду на перагаворы і аналізую кожную прапанову. Галоўнае, каб ад іх была карысць для рэспублікі», — падкрэсліў Прэзідэнт.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 4 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США покупка | Доллар США продажа | Немецкая марка покупка | Немецкая марка продажа | Российский рубль покупка | Российский рубль продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КОМПЛЕКС | 10604* | 10950 | 6699* | 6958 | 2.65 | 2.85 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 10450* | 11000 | 6705* | 7060 | 2.4 | 2.9 |
| БЕЛАРУСБАНК | 10593* | 11312* | 6333* | 7373* | 2.57* | 2.93* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 10650 | 10900 | 6800 | 7050 | 2.5 | 2.9 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 10450 | 10800 | 6600* | 6860 | 2.6 | 2.75 |
| ПРОФБАНК | 10700* | 11000 | 6650* | 6900 | 2.7 | 2.9 |
| СБЕРБАНК | 10400 | 10700 | 6400 | 6800 | 2.5 | 2.7 |
| ОЛИМП | 10610* | 10930 10985** | 6715* | 6962 6997** | 2.65 2.78** | 2.82 2.92** |
| ДУКАТ | 10600* | 11000 | 6700* | 7000 | 2.4 | 3.0 |
| финансовая компания СОЛИД | 10600 | 10900 | 6550 | 6850 | 2.65 | 2.8 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 10450 | 10950 | 6480 | 6850 | 2.3 | 2.8 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 10300 | 10850 | 6250 | 6850 | --- | |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 10650 10700** | 10800 10940** | 6600 6650** | 6750 6900** | 2.7* | 2.9* |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 10700* | 10920 | 6700* | 6950* | --- | |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 10600 10700** | 10850 11000** | 6700 6750** | 6900 7000** | 2.7 2.74** | 2.8 2.93** |
| СОТРУДНИЧЕСТВО (отд.БББ) | 10450 | 11100 | 6700 | 7150 | 2.7 | 2.95 |
| БЕЛБАЛТИЯ | 10550 | 11000 | 6000 | 6800 | 2.4 | 2.7 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 10400 | 10800 | 6300 | 6800 | 2.3 | 2.8 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 10400* | 10850* | 6300* | 6900* | 2.5 | 2.7* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 10500 3800 | 10900 4100 | 6300 | 6800 | 2.55 | 2.8 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 10700.00 | | 6865.14 | | 2.93 | |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Грецова".

### КОРОТКО

**Подписан договор о сотрудничестве политических партий и общественных организаций левоцентристского толка.**

**Свои подписи под ним поставили руководители Партии коммунистов Беларуси (ПКБ), Аграрной партии Беларуси (АПБ), Республиканской Партии труда и справедливости (РПТС), Белорусской социалистической партии (БСП), Республиканского совета организаций ветеранов войны, труда и вооруженных сил, ЛКСМБ, Союза офицеров.**

**На заседании Президиума Белорусской ассоциации политических наук принято решение провести 9–10 февраля 1995 года Международную конференцию «Гражданское национальное согласие — первооснова консолидации белорусского общества».**

**На нее пригласят ученых-политологов, политиков стран ближнего и дальнего зарубежья, которые поделятся опытом обретения единства.**

**О своем участии в конференции заявили лидеры Белорусской крестьянской партии, Республиканской партии труда и справедливости, Белорусской национальной партии, ряда обществ и объединений.**

* * *

*У Мінску створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да правядзення ў пачатку 1995 года агульнанацыянальнага сходу. Аб гэтым заявіў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Сяргей Антончык.*

*У звароце С.Антончыка да суайчыннікаў змяшчаецца заклік да грамадскасці прыняць удзел у падрыхтоўцы і правядзенні агульнанацыянальнага сходу. Мэта форуму, згодна са зваротам, — кансалідацыя грамадства і пошук шляхоў выхаду з крызісу.*

* * *

**У Мінску прайшло арганізацыйнае пасяджэнне Беларускага нацыянальнага камітэта садзейнічання ЮНЕП (праграма ААН па ахове навакольнага асяроддзя). Старшынёй ЮНЕПкама абраны новы міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіл Русы.**

* * *

*Зимний плавательный сезон открыли приверженцы здорового образа жизни из Республиканской школы «Оптималист». В прорубь на лодочной станции Чижовского водохранилища окунулось около 40 минских «моржей»—«оптималистов».*

*По данным Главного управления военизированной пожарной службы МВД Республики Беларусь, за двое новогодних суток по стране было зарегистрировано 94 пожара, ущерб от которых составил около 160 миллионов рублей. Огнем было уничтожено или повреждено 41 строение. Погибло шесть человек, один из которых — ребенок.*

*Основные причины пожаров — неосторожное обращение с огнем, курение в нетрезвом состоянии, неисправность печей.*

* * *

**Звыш 20 тысяч беларускіх дзяцей праводзяць свае зімовыя школьныя канікулы ў загарадных аздараўленчых лагерах, санаторыях, прафілакторыях і на турбазах, дзякуючы намаганням прафсаюзаў.**

**Акрамя таго, для двух мільёнаў дзяцей Беларусі былі арганізаваны святочныя ёлкі, а навагоднія «салодкія» падарункі ад Дзеда Мароза ў асобе Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі атрымалі 600 тысяч рабят.**

### ПАРТАКТЫЎ

### ДАБРАЧЫННЫ ВЕЧАР ДЛЯ ІНВАЛІДАЎ

У клубе мінскага вытворчага аб'яднання індустрыяльнага домабудавання адбыўся вечар для таварыства інвалідаў Фрунзенскага раёна сталіцы, яго правяла Партыя «Хрысціянска-дэмакратычны выбар» на чале са старшынёй Валерыем Сарока.

Інвалідам былі падораны Евангелле і кнігі Валерыя Сарока, прысвечаныя сумна вядомай «Віцебскай справе».

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ.

### ІНІЦЫЯТЫВА ЗА САДРУЖНАСЦЮ

Партыя падтрымкі Садружнасці Незалежных Дзяржаў выказала заклапочанасць з нагоды сітуацыі ў былой Югаславіі.

На думку сяброў партыі, для вырашэння баснійскага крызісу дэмакратычным шляхам неабходна незалежная экспертная група. Паколькі СНД з'яўляецца суб'ектам міжнароднага права, то яна можа выступіць з падобнай ініцыятывай. Тым больш, што вопыту вырашэння аналагічных канфліктаў Садружнасці, як кажуць, не займаць.

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ.

## Выступленне старшыні Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў А.М.Герасіменкі на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 30 снежня 1994 года.

Я ўпэўнены, што сёння кожны кіраўнік выканаўчай улады з бюджэту пачынае і заканчвае свой рабочы дзень. Таму мяне вельмі здзіўляе лёгкасць, з якой мы разглядаем на нашай сесіі галоўны Закон года. Гэтае пытанне заслугоўвае больш дэталёвага і нават шматварыянтнага разгляду, асабліва па сталіцы рэспублікі.

З-за недахопу часу выкажу свае заўвагі і прапановы тэзісна, спадзяючыся, што дэпутаты пры галасаванні іх улічаць і падтрымаюць.

Па-першае, разлік паказчыкаў па мясцовых бюджэтах на 1995 год на аснове сярэднерэспубліканскага нарматыву бюджэтнай забяспечанасці па даходах на аднаго жыхара не ўлічвае асаблівасці і аб'ёму затрат па выкананню Мінскам функцый сталіцы дзяржавы — буйнейшага горада рэспублікі.

Штогод з горада забіраецца ў рэспубліканскі бюджэт да 70% даходаў. Між тым, значная доля нават пакінутых расходаў гарадскога бюджэту ідзе на ўтрыманне і развіццё камунальнай гаспадаркі, якая забяспечвае асноўныя, прытым усё ўзрастаючыя патрэбнасці рэспубліканскіх прамысловых прадпрыемстваў і растучых, як грыбы, арганізацый, такіх сур'ёзных будоўляў, як метро і станцыя аэрацыі.

Яны цягнуць з бюджэту горада звыш 50% ад усіх капітальных укладанняў. Сёння ў Мінску з 810 тыс. куб. метраў сцёкаў, што паступаюць у суткі, 140 тыс. куб. метраў праходзяць толькі механічную ачыстку і скідаюцца ў Свіслач, аказваючы шкоднае ўздзеянне на экалогію не толькі Мінска, а і Мінскай вобласці. А паколькі прадпрыемствы не вядуць свае прамысловыя будоўлі і ў вырашэнні гэтых праблем не прымаюць удзел, усё кладзецца на мясцовы бюджэт.

Па-другое. Вельмі спрэчнай з'яўляецца прапанова аб выключэнні з даходаў мясцовых бюджэтаў адлічэнняў ад падатку на прыбытак па прадпрыемствах рэспубліканскага падпарадкавання. Дадзеныя прадпрыемствы складаюць аснову прамысловай базы горада і ўносяць у бюджэт да 70% агульнай сумы падатку на прыбытак, які паступае ў горад. Працуючы з гэтымі прадпрыемствамі, гарадскія ўлады вырашаюць многія мясцовыя і рэспубліканскія праблемы. Перадача плацяжоў толькі ў рэспубліканскі бюджэт аслабіць кантакты з імі і зацікаўленасць у выніках іх гаспадарчай дзейнасці. Таму лічым неабходным захаваць адлічэнні ад падатку на прыбытак у мясцовыя бюджэты і прадугледзець у бюджэце горада яго паступленні па нарматыву, зацверджанаму на 1994 год.

Па-трэцяе. Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў неаднаразова звяртаўся ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аб зацвярджэнні нарматыву адлічэнняў ад падатку на дабаўлены кошт у памеры 50%, гэта значыць, на ўзроўні нарматыву, устаноўленага для абласцей, а не 25%, як гэта прадугледжана праектам. Просім яшчэ раз вярнуцца да разгляду дадзенай прапановы і паставіць нас на адзін узровень з абласцямі.

Што датычыцца прапануемых асігнаванняў на ўтрыманне ўсіх галін гарадской гаспадаркі, то першае, што хацелася б адзначыць, гэта рэзка заніжанае базавае чаканае выкананне бюджэту за 1994 год. У выніку плануемы рост бюджэту ў 1995 годзе будзе толькі ў 2,5 раза, пры росце цэн, у адпаведнасці з макраэканамічнымі паказчыкамі, у 3,5-4 разы. Гэта прывядзе да таго, што практычна па ўсіх галінах гарадской гаспадаркі неабходна будзе знізіць фізічныя аб'ёмы работ і паслуг супраць 1994 года як мінімум таксама ў 2 разы. І зноў на працягу ўсяго года прыйдзецца нам абіваць парогі ў Мінфіне і Кабінеце міністраў з просьбамі аб дапамозе.

Найбольшыя цяжкасці горад адчувае ў пытаннях транспартнага забеспячэння насельніцтва, у асноўным з-за немагчымасці аднаўлення рухомага саставу.

Так, на набыццё пасажырскага транспарту для горада Мінска прадугледжана 60 млрд. рублёў капітальных укладанняў, а неабходна 723 млрд. рублёў. І гэта пры тым, што амаль 35% аўтобусаў, тралейбусаў цалкам зношаны і падлягаюць спісанню. Дзяржава вызначыла датацыйнасць гэтай галіны і павінна прадугледжваць адпаведна і кампенсацыйныя сродкі. Не ўлічаны таксама расходы на набыццё 23 вагонаў для пуску ў эксплуатацыю да 9 мая 1995 года 3-кіламетровага ўчастка метрапалітэна коштам 50 млрд. руб., які звязаў бы жылую забудову заходняй жылой часткі горада з прамысловымі раёнамі і даў бы магчымасць зэканоміць наземны транспарт.

Не прадугледжаны расходы ў поўным аб'ёме на набыццё і ўстаноўку прыбораў пакватэрнага ўліку вады і цеплавой энергіі, капітальнага рамонту жылля, на якія патрабуецца 180 млрд. рублёў. Прапануецца ж усяго 6,3 млрд. руб., што ставіць пад пагрозу невыкананне адпаведных пастаноў урада. У праекце бюджэту не знайшла таксама адлюстравання пастанова Кабінета міністраў «Аб парадку пакрыцця грамадзянам затрат на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі». Адзначаныя затраты павінны фінансавацца за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў і пазабюджэтных фондаў. Па папярэдніх разліках, гораду на гэтыя мэты патрабуецца не менш 400 млрд. рублёў, у бюджэце ж прадугледжана 58 млрд. рублёў. І гэтак далей.

Не ўлічваць асаблівасцей жыцця і развіцця амаль 2-мільённага горада, сталіцы дзяржавы, сёння проста недапушчальна. Прапанаваны прагноз зводу даходаў і расходаў па Мінску можа проста паралізаваць гарадскую гаспадарку, выклікаць сур'ёзныя незваротныя экалагічныя працэсы.

Таму прашу паказчыкі бюджэту на 1995 год па Мінску разгледзець асобна яшчэ раз.

## НАШ РОДНЫ ГОРАД

*У мікрараёне «Серабранка».*

Фота Ю.ЗАХАРАВА.

### З «МЁРТВАЙ» КРОПКІ ЗРУШЫЛІСЯ!

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол дзяржавы Ізраіль у Беларусі Эліяху Валк сустрэўся з прэм'ер-міністрам рэспублікі Міхаілам Чыгіром.

У ходзе гутаркі ізраільскі пасол зрабіў кароткі агляд развіцця адносін паміж дзвюма краінамі за перыяд дзейнасці пасольства (з верасня 1993 года). Валк асабліва адзначыў праграму навучання спецыялістаў, якая ажыццяўляецца ізраільскім МЗС, у важнейшых для Беларусі галінах: сельскай гаспадарцы, ахове здароўя і адукацыі.

Прэм'ер-міністр Беларусі адзначыў, што неабходна паскорыць развіццё эканамічных сувязей паміж Ізраілем і Беларуссю і, перш за ўсё, — шляхам стварэння сумесных прадпрыемстваў.

Эліяху Валк з задавальненнем адзначыў, што распрацоўка пагадненняў у галіне эканамічнага супрацоўніцтва зрушылася з «мёртвай» кропкі і можна чакаць далейшага прагрэсу ў ходзе двухбаковых візітаў кіраўнікоў знешнеэканамічных ведамстваў абедзвюх краін.

М.Чыгір праінфармаваў ізраільскага пасла аб станоўчых зрухах, што намеціліся ў эканоміцы Беларусі ў апошнія месяцы.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

## МЕРКАВАННЕ

### БАЧАРОЎ ПАПЯРЭДЖВАЕ: АРМІЯ СТРАЦІЦЬ БАЯЗДОЛЬНАСЦЬ

Былы камандуючы пагранічнымі войскамі, народны дэпутат Яўген Бачароў выказаў заклапочанасць з нагоды памераў сум, што, згодна з прапанаваным урадам і прэзідэнтам праектам дзяржаўнага бюджэту, будуць выдзелены ў 1995 годзе на патрэбы Міністэрства абароны і пагранічных войскаў.

На яго думку, расходы на абарону ў памеры 798 мільярдаў рублёў ні ў якой меры не адказваюць рэальным патрэбам беларускіх узброеных сіл. Больш таго, у праекце бюджэту закладзена зніжэнне іх удзельнай вагі ў валавым унутраным прадукце ў параўнанні з 1994 годам з 1,15 да 1,07 працэнта.

Узнікае сітуацыя, калі змяншэнне колькасці беларускай арміі будзе выклікана не працэсам яе скарачэння, а нежаданнем спецыялістаў служыць у арміі з такім бюджэтам. Выдзеленых пагранічным войскам 88,3 мільярда рублёў не хопіць нават на завяршэнне будаўніцтва ўжо пачатых аб'ектаў.

У той жа час расходы на ўтрыманне праваахоўных органаў пры іх колькасці ў некалькі разоў меншай, чым колькасць узброеных сіл, практычна не саступаюць бюджэту ваеннага ведамства. Аналагічная сітуацыя ўзнікае і пры параўнанні выдзеленых сродкаў на патрэбы Камітэта дзяржаўнай бяспекі і пагранічных войскаў. Зыходзячы з памераў бюджэтных артыкулаў і колькасці МА, МУС, КДБ і ПВ Я.Бачароў падлічыў сумы, што прыпадаюць на ўтрыманне аднаго ваеннаслужачага. Для Міністэрства абароны гэтая лічба склала 6 мільёнаў рублёў, Міністэрства ўнутраных спраў — 15, пагранічных войскаў — каля 7, а Камітэта дзяржаўнай бяспекі — 22. Пры такой раскладцы да канца 1995 года, на думку Я.Бачарова, армія страціць баяздольнасць на 30-40 працэнтаў і не вырашыць асноўных сацыяльных праблем.

Не ў стане выканаць у поўным аб'ёме свае задачы будуць і пагранічныя войскі. «Нават апошні кавалак хлеба трэба дзяліць сумленна, а не па прынцыпу: у каго больш магутнае лобі», — заявіў Яўген Бачароў.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.



## СУПРАЦОЎНІЦТВА

### НАМ — ПАДАРУНАК АД ЕС

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Валерый Цэпкала правёў прэс-канферэнцыю па выніках паездкі беларускай дэлегацыі ў Брусель на перамовы з прадстаўнікамі Еўрапейскай Супольнасці, якія датычылі пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве з ЕС.

У ходзе перамоў былі парафіраваны два важныя для нашай рэспублікі палажэнні аб статусе Беларусі і аб гандлі таварамі.

«Мы дабіваемся таго, каб Беларусь была прызнана як краіна з пераходнай эканомікай», — сказаў В.Цэпкала. У ходзе перамоў дасягнута дамоўленасць аб адмене колькасных абмежаванняў на гандаль беларускімі таварамі ў краінах ЕС, за выключэннем тэкстылю і сталі. Беларусі будзе прадастаўлены таксама рэжым найбольшага спрыяння ў гандлі з Еўрапейскім Саюзам — тавары з нашай рэспублікі будуць абкладацца мытным падаткам у памеры 3 працэнтаў. Тавары ж ЕС, якія будуць паступаць на беларускі рынак, будуць абкладацца 15 працэнтамі мытных збораў. Беларусі будуць прадастаўлены іншыя дадатковыя льготы.

Падпісанне пагаднення — з нашага боку гэта зробіць Прэзідэнт А.Лукашэнка — запланавана на сакавік будучага года. Дакладная дата і месца будуць вызначаны дадаткова.

Па словах В.Цэпкалы, пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве з ЕС уступіць у сілу толькі пасля ратыфікацыі яго парламентамі Беларусі, а таксама ўсіх астатніх пятнаццаці дзяржаў — членаў Еўрапейскай Супольнасці.

Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.

### ПРАФСАЮЗЫ ПАТРАБУЮЦЬ ПАВЕЛІЧЭННЯ МІНІМАЛЬНАГА ЗАРОБКУ

4 студзеня адбудзецца чарговая сустрэча прадстаўнікоў прафсаюзаў, якія ўваходзяць у склад Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ), з урадам.

Як паведаміў лідэр прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў, прыярытэтным па-ранейшаму застаецца пытанне аб павелічэнні заработнай платы. Прафсаюзы, у прыватнасці, настойваюць, каб урад штомесяц пераглядаў памер мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ) з улікам росту цэн і тарыфаў і ўсталёўваў узровень мінімальнай заработнай платы ў памеры 25 працэнтаў ад МСБ. Паводле падлікаў спецыялістаў ФПБ, у І квартале гэтага года памер мінімальнага спажывецкага бюджэту складзе прыкладна 374 тысячы рублёў. Такім чынам, мінімальны памер заробку павінен прыблізіцца да 100 тысяч. Да канца бягучага года прафсаюзы патрабуюць давесці памер мінімальнага заробку да памеру мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Акрамя гэтага, па словах А.Бухвостава, на чарговых перамовах прафсаюзы будуць настойваць на павелічэнні адлічэнняў ад фінансавых паступленняў на неадкладныя патрэбы прадпрыемстваў, на зняцці абмежаванняў з фонду аплаты працы і спажывання, на першачарговай выплаце працоўным заработнай платы. Як паведаміў А.Бухвостаў, многія прадпрыемствы сёння ў стане павысіць узровень заробку сваім супрацоўнікам, калі ўрад выканае патрабаванні прафсаюзаў. Прафсаюзы таксама патрабуюць, каб рэальна пачала функцыянаваць створаная па ўказу Прэзідэнта камісія па ліквідацыі неплацяжоў.

Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.

### «МИНИМАЛЬНУЮ» ОЖИДАЕТ ПОВЫШЕНИЕ

Состоялся очередной раунд переговоров между Федерацией профсоюзов Беларуси и Кабинетом министров Республики Беларусь по вопросам социальной защиты населения в условиях роста цен и тарифов на потребительские товары и услуги.

Кабинет министров признал необходимость реформирования системы оплаты труда, имея в виду повышение ее доли в себестоимости продукции, валовом внутреннем продукте и произведенном национальном доходе, восстановление статуса зарплаты как основного источника доходов трудящихся, стимула к высокопроизводительному труду.

В частности, признано необходимым повысить с 1 января 1995 года размер минимальной заработной платы, тарифной ставки 1 разряда, пенсий, стипендий, пособий.

Кабинет министров предложил установить минимальную заработную плату в размере 30 тыс. рублей, тарифную ставку 1 разряда — 33 тыс. рублей, увеличить в полтора раза размер фиксированных надбавок к тарифным ставкам 1-7 разрядов (надбавка к тарифной ставке 1 разряда — 15 тыс. рублей).

В соответствии с предложением профсоюзов минимальная заработная плата должна быть не менее 50 тыс. рублей, а тарифная ставка 1 разряда — 55 тыс. рублей. Для согласования позиций по новому размеру минимальной заработной платы создана рабочая группа, которая в ближайшее время должна представить расчет ожидаемого уровня минимального потребительского бюджета в январе 1995 года, исходя из прогноза роста потребительских цен и тарифов.

РИД.

### ШТАБ І «ШТАБС-КАПІТАНЫ»

Народны рух Беларусі на базе партый і грамадска-палітычных арганізацый, што ўваходзяць у НРБ, стварыў Штаб народна-патрыятычных сіл па падрыхтоўцы і правядзенню выбараў у Вярхоўны Савет.

Начальнікам штаба абраны старшыня Каардынацыйнага камітэта НРБ Сяргей Гайдукевіч, увайшлі ў яго і шэсць яго намеснікаў: старшыня Саюза афіцэраў Д.Іваноў, першы намеснік старшыні Рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў А.Чацвяроў, сустаршыня Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць Л.Школьнікаў, старшыня Думы Славянскага Сабора «Белая Русь» М.Сяргееў, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі В.Крывенка і старшыня Народнага саюза Беларусі «Ачышчэнне» С.Смірноў.

Юрась ДУБІНА.

### ЗБОРЫ ЗА ТРАНЗІТ — У АЛЬТЭРНАТЫЎНЫМ ПРАЕКЦЕ

Фракцыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады ў Вярхоўным Савеце рэспублікі распрацавала альтэрнатыўны праект Закона «Аб дзяржаўным бюджэце на 1995 год».

У ім, у прыватнасці, у адрозненне ад «афіцыйнага» законапраекта, прапануецца значна паменшыць падаткі на дадатковы кошт і акцызы і ў той жа час — увесці транзітныя падаткі з фізічных асоб, з аўтамабільнага транспарту, за перавозку грузаў чыгункай і за транзіт энерганосьбітаў па магістральных трубаправодах.

Па звестках БелаПАНа, альтэрнатыўным законапраектам зацікавіўся ўрад рэспублікі. Ужо адбыліся першыя кансультацыі па гэтаму пытанню паміж распрацоўшчыкамі дакумента і прадстаўнікамі Кабінета міністраў, удзел у якіх прыняў і прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.

Антон АНДРОСАЎ.

# УКАЗ
## ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
## № 274

# Аб неадкладных мерах па барацьбе са злачыннасцю і стабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь

**Нягледзячы на меры, што прымаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Кабінетам міністраў Рэспублікі Беларусь па выхаду рэспублікі з крызісу, эканамічная і сацыяльна–палітычная абстаноўка застаецца складанай. Узмацняе сацыяльную напружанасць і высокі ўзровень злачыннасці. Праваахоўным органам яшчэ не ўдалося спыніць рост цяжкіх злачынстваў. Многія супрацоўнікі гэтых органаў не ў поўнай меры выкарыстоўваюць прадастаўленыя заканадаўствам магчымасці для абароны інтарэсаў грамадзян, часта не рэагуюць на іх заявы аб крадзяжах і іншых проціпраўных дзеяннях, якія ўчыняюцца службовымі асобамі. Бяздзейнасць органаў выканаўчай улады на месцах, беспакаранасць злачынцаў падрываюць у насельніцтва веру ў здольнасць дзяржавы забяспечыць у рэспубліцы правапарадак і захаванне прынцыпу роўнасці ўсіх перад законам. Незадаволенне народа выклікае дзейнасць шэрагу камерцыйных структур, якія нажываюцца за яго кошт.**

У мэтах забеспячэння абароны насельніцтва ад злачыннасці і стабілізацыі абстаноўкі ў рэспубліцы:

1. Кабінету міністраў Рэспублікі Беларусь:

1.1 у двухмесячны тэрмін падрыхтаваць і ва ўстаноўленым парадку прадставіць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праекты законаў: аб устанаўленні крымінальнай адказнасці за злоснае парушэнне Правіл адміністрацыйнага нагляду;

аб змяненні пераліку злачынстваў, вытворчасць па якіх ажыццяўляецца ў парадку пратакольнай формы дасудовай падрыхтоўкі матэрыялаў;

аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй;

аб прэвентыўным затрыманні;

аб устанаўленні адказнасці грамадзян за незаконнае набыццё, захоўванне, нашэнне газавай зброі;

аб узмацненні крымінальнай адказнасці за злачынствы супраць уласнасці;

аб павелічэнні да 10 сутак тэрміну затрымання асоб, якія падазраюцца ва ўчыненні цяжкіх злачынстваў;

аб абароне сведкаў, пацярпелых і іншых удзельнікаў крымінальнага працэсу ад злачынных замахаў;

аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі»;

аб пашырэнні кампетэнцыі начальнікаў аддзяленняў і ўчасткаў міліцыі па разгляду матэрыялаў аб адміністрацыйных правапарушэннях;

аб ліквідацыі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці і спыненні прадпрымальніцкай дзейнасці фізічных асоб з-за парушэння імі заканадаўства ў сферы цэнаўтварэння;

1.2. разгледзець да 30 студзеня 1995 г. ход выканання Дзяржаўнай праграмы першачарговых мер па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю, забяспечваць своечасовае яе фінансаванне, выдзяленне неабходных грашовых рэсурсаў для набыцця сучасных спецыяльных сродкаў, тэхнікі і аснашчэння імі праваахоўных органаў;

1.3. да 30 студзеня 1995 г. стварыць апарат для правядзення рэвізій па даручэннях і пастановах аператыўных і следчых работнікаў органаў унутраных спраў, пракуратуры, дзяржаўнай бяспекі, пастановах судоў (суддзяў);

1.4. у двухмесячны тэрмін распрацаваць новую форму дэкларацыі аб даходах грамадзян, прадугледзеўшы ў ёй указанне звестак аб наяўнасці ўласнасці і грашовых сродкаў, а таксама ўнесці ва ўстаноўленым парадку прапановы аб узмацненні адказнасці за наўмыснае прадстаўленне няпоўнай, недакладнай або скажонай інфармацыі аб даходах;

1.5. у трохмесячны тэрмін распрацаваць комплекс мер маральнага і матэрыяльнага стымулявання працы следчых і аператыўных работнікаў праваахоўных органаў, аператыўных работнікаў пагранічных войскаў і работнікаў мытных органаў у залежнасці ад узроўню іх падрыхтоўкі, стажу і характару работы для замацавання ўказаных работнікаў у гэтых органах.

2. Кіраўнікам мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў у месячны тэрмін разгледзець пытанне аб абгрунтаванасці кантрактаў, заключаных з кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, якія належаць адміністрацыйна-тэрытарыяльным утварэнням на праве камунальнай уласнасці.

3. Кабінету міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам павысіць адказнасць кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў за безгаспадарчасць, нездавальняючую арганізацыю ўліку, незабеспячэнне захаванасці дзяржаўнай уласнасці і пры неабходнасці ва ўстаноўленым парадку прымяняць да іх меры дысцыплінарнага ўздзеяння аж да зняцця з пасад.

4. Міністэрству ўнутраных спраў да 30 студзеня 1995 г. праверыць захаванне суб'ектамі гаспадарання, заснаванымі на дзяржаўнай форме ўласнасці, адпаведнасці месц захоўвання таварна-матэрыяльных каштоўнасцей і грашовых сродкаў нормам тэхнічнай аснашчанасці і пажарнай бяспекі. У выпадку іх грубага парушэння суб'екты гаспадарання па прадстаўленню Міністэрства ўнутраных спраў пазбаўляюцца ліцэнзій органамі, якія выдалі гэтыя ліцэнзіі. У далейшым указаным суб'ектам гаспадарання ліцэнзіі выдаюцца толькі пасля атрымання ад іх заключэнняў органаў унутраных спраў аб адпаведнасці месцаў захоўвання таварна-матэрыяльных каштоўнасцей і грашовых сродкаў гэтым нормам.

5. Кіраўнікам банкаў, фінансавых, мытных органаў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў беспераШкодна прадастаўляць па пісьмоваму патрабаванню следчых работнікаў (па матэрыялах і расследуемых крымінальных справах), а таксама кіраўнікоў падраздзяленняў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, злачыннасцю ў сферы эканомікі, органаў унутраных спраў і дзяржаўнай бяспекі афіцыйныя дакументы, неабходныя для раскрыцця і спынення злачынстваў.

6. Службе кантролю адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у студзені-лютым 1995 г. правесці праверкі работы цэнтральных і мясцовых органаў кіравання ў сувязі са скаргамі і заявамі грамадзян. Матэрыялы аб фактах парушэння заканадаўства накіраваць у праваахоўныя органы для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

7. Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Міністэрства адукацыі і навукі ў шасцімесячны тэрмін з улікам прапаноў Міністэрства ўнутраных спраў унесці ў нарматыўна-тэхнічную дакументацыю па праектаванню і будаўніцтву змяненні і дапаўненні ў частцы павышэння бяспекі жылля ад злачынных замахаў на ўласнасць грамадзян.

8. Абласным, Мінскаму гарадскому, раённым, гарадскім выканаўчым камітэтам, Міністэрству транспарту і камунікацый выдзеліць органам унутраных спраў для размяшчэння ўчасткаў міліцыі грамадскай бяспекі, участкаў дарожнай і транспартнай міліцыі памяшканні і маёмасць для іх абсталявання.

9. Увесці з 1 студзеня 1995 г. у Рэспубліцы Беларусь улік сродкаў каляровага капіравання (аператыўнай паліграфіі, капіравальна- размнажальнай тэхнікі, кропельна-струменных прынтэраў і інш.), якія набываюцца грамадзянамі, а таксама прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі, незалежна ад форм уласнасці і сфер дзейнасці.

Фізічным і юрыдычным асобам да 30 студзеня 1995 г. зарэгістраваць у органах унутраных спраў раней набытыя такія сродкі.

Міністэрству ўнутраных спраў з удзелам Міністэрства юстыцыі і Камітэта дзяржаўнай бяспекі ў месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць правілы набыцця, уліку, захоўвання і выкарыстання ў Рэспубліцы Беларусь сродкаў каляровага капіравання і падрыхтаваць прапановы аб увядзенні адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне гэтых правіл для ўнясення ва ўстаноўленым парадку ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

10. Міністэрству ўнутраных спраў да 1 сакавіка 1995 г. забяспечыць перарэгістрацыю наразной агнястрэльнай зброі і праверку абгрунтаванасці набыцця яе грамадзянамі.

11. Дзяржаўнаму мытнаму камітэту, Галоўнаму ўпраўленню пагранічных войскаў прыняць дадатковыя меры для недапушчэння незаконнага вывазу за мяжу тавараў, сыравіны і матэрыялаў.

12. Міністэрству ўнутраных спраў сумесна з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі, Галоўным упраўленнем пагранічных войскаў, Дзяржаўным мытным камітэтам, органамі выканаўчай улады і з удзелам Пракуратуры ажыццяўляць аперацыі па выяўленню і спыненню злачынных фарміраванняў, карупцыі, кантрабанды, незаконнага абароту наркатычных сродкаў.

13. Міністэрству абароны накіроўваць Міністэрству ўнутраных спраў ваеннаслужачых і неабходную колькасць транспартных сродкаў для аказання дапамогі ў забеспячэнні грамадскага парадку і барацьбе са злачыннасцю, у правядзенні буйнамаштабных аперацый і ў патруляванні.

14. Міністэрству культуры і друку, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, Упраўленню грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь арганізаваць асвятленне ў сродках масавай інфармацыі праводзімай у рэспубліцы работы па абароне правоў, свабод, жыцця, здароўя і маёмасных інтарэсаў грамадзян, барацьбе са злачыннасцю, рэфармаванню мясцовага кіравання і самакіравання, выхаду рэспублікі з крызісу.

15. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка.**

**27 снежня 1994 г. г.Мінск.**

ЭКАНОМІКА

## А РУБЕЛЬ «ПАДПЕРЦІ» НЯМА ЧЫМ...

«Сітуацыя ў эканоміцы складаная, аднак, зыходзячы з разлікаў урада і калі не адбудзецца нічога экстраардынарнага, яна ў далейшым не павінна пагаршацца», — так ахарактарызаваў становішча ў эканоміцы Беларусі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.

Гаворачы пра вынікі адыходзячага года, кіраўнік беларускага ўрада адзначыў, што ў рэспубліцы адбылося значнае скарачэнне спаду прамысловай вытворчасці: за перыяд са жніўня па лістапад яе аб'ёмы ў параўнанні з аналагічным перыядам 1993 года склалі ад 90 да 100%. Аднак існуе пэўная трывога за студзень 1995 года, і ўрад паабяцаў зрабіць усё магчымае, каб не дапусціць паўтарэння правалу ў эканоміцы, што адбыўся ў пачатку 1994 года.

Гэты год аказаўся цяжкім для сельскай гаспадаркі Беларусі. Рэспубліка, па словах М.Чыгіра, недаатрымала паўтара мільёна тон зерня, тры мільёны тон бульбы, паўмільёна тон — цукровых буракоў. Цяпер адшукваюцца сродкі, каб папоўніць недахоп гэтых і іншых відаў харчавання. Для закупкі зерня, напрыклад, — а гэта першачарговая задача ўрада — патрабуецца каля 150 мільёнаў долараў.

Па словах кіраўніка ўрада, упершыню за апошнія месяцы рэспубліка выйшла на ўзровень своечасовых разлікаў за пастаўкі расійскага газу. Прычым зроблена гэта выключна за кошт уласных сродкаў, у тым ліку і шляхам больш жорсткай палітыкі ў адносінах да ўнутраных спажыўцоў энерганосьбітаў. На сённяшні дзень ужо поўнасцю заплацілі за пастаўку газу за снежань.

На жаль, недахоп сродкаў (аплата энерганосьбітаў, закупкі зерня і гэтак далей) не дазволіў нічога проціпаставіць падзенню курсу беларускага рубля. Па прагнозах беларускага ўрада, і ў бліжэйшы час нічога істотнага ў гэтай галіне зрабіць не ўдасца. Ёсць толькі надзея на ўдалы зыход студзеньскіх перамоў з Міжнародным валютным фондам. У выпадку іх станоўчага завяршэння і выдзялення Беларусі крэдытаў магчыма будзе некаторую частку сродкаў накіраваць на стабілізацыю курса «беларускай валюты».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

ЭНЕРГЕТЫКА

## РАСІЯ АБЯЦАЕ НАФТУ І ГАЗ

Як стала вядома БелаПАНу з кампетэнтных крыніц, аб'ём магчымых паставак нафты з Расіі ў Беларусь складзе ў 1995 годзе каля 10,5 мільёна тон.

Плануецца таксама завяршыць узгадненне паставак у Беларусь амаль 5 мільёнаў тон нафты на клірынгавай аснове з акцыянерным таварыствам «Раскантракт». У рамках супрацоўніцтва паліўна-энергетычных комплексаў дзвюх дзяржаў на эквівалентнай аснове павінна паступіць да 3,5 мільёна тон. Акцыянернае таварыства «Слаўнафта», створанае на базе расійскага акцыянернага таварыства «Мегіённафтагаз» і акцыянернага таварыства «Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод», мяркуе паставіць на перапрацоўку да 6 мільёнаў тон з рэалізацыяй у Беларусі да 40 працэнтаў гэтых нафтапрадуктаў. Плануюцца таксама пастаўкі энерганосьбітаў недзяржаўнымі структурамі па прамых дагаворах.

На сёння з расійскім акцыянерным таварыствам «Газпрам» узгоднены пастаўкі на 1995 год прыроднага газу ў аб'ёме 16 мільярдаў кубічных метраў, што перавышае адпаведны паказчык 1994 года больш чым на мільярд кубічных метраў.

Аднак, пастаўкі нафты і газу ў вызначаных аб'ёмах магчымы будуць толькі на ўмовах своечасовай аплаты.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ, БелаПАН.**

ТОВАРЫ ДЛЯ ВАС

# А ДЕЛО — И В ШЛЯПЕ ТОЖЕ

**Ольга ЖАРИНА, «ДВ».**

**Хотя мы только–только отпраздновали Новый год, но, наверное, многие женщины, заглядывая вперед, думают о предстоящей весне. Через пару месяцев, когда станет теплее, непременно появятся заботы: что одеть, чтобы выглядеть под стать весне — молодо, свежо и красиво. И если с верхней одеждой и обувью еще можно как–то разобраться, то выбрать головной убор, к сожалению, гораздо сложнее. Ни в магазине, ни на «Динамо» сейчас не найти приличную фетровую шляпу (да еще нужного цвета), проблематично встретить модные объемные кепки с козырьком или мягкие шляпки из велюра и т.д. Но может, к весне Минская фабрика головных уборов — ныне ЗАО «Людмила» — поможет женщинам решить эту маленькую, но актуальную проблему? С таким вопросом мы обратились к директору «Людмилы» Анатолию Илларионовичу КОШЕВЦУ.**

– Увы, ничего обнадеживающего сказать не могу. Раньше, делая в год 1 миллион 200 тысяч различных головных уборов фирма удовлетворяла спрос на этот товар. Но в прошлом году мы дали в торговлю уже почти наполовину меньше. И все из-за проблем с сырьем. Например, фетр в республике не производят, и сейчас наладить его выпуск невозможно из-за отсутствия средств. Поэтому приходится закупать фетр в России, странах Балтии, на Украине. Сделать это не просто. С Россией можно рассчитаться только российскими рублями, а они будут лишь тогда, когда удастся продать там часть своей продукции. Но попробуйте продать, если у соседей есть свои фабрики, и приоритет отдается их товару.

Те же проблемы и в расчетах с другими поставщиками. Так что постоянных закупок фетра у нас нет, делаются они от случая к случаю, и то с большим трудом.

С другим сырьем дело обстоит не намного лучше. Вы знаете, что сейчас любое производство работает с перебоями, не исключение и предприятия, у которых мы берем ткани. Например, Барановичская хлопчатобумажная фабрика простаивает уже около года (нет сырья). А именно у нее мы получали ткани для летних головных уборов.

В дефиците сейчас кожа и качественный кожзаменитель — так что от изделий из этих материалов пришлось отказаться.

Перечень можно продолжать. Все это влияет на ассортимент. Хотя предприятие ежегодно обновляет его примерно наполовину, многие интересные задумки реализовать невозможно. Приходится на ходу перестраиваться под то сырье, которое имеем.

Очень плохо еще и то, что поставщики дают нам сырье только после предоплаты, а вот мы отгружаем товар торговле без оплаты. То есть деньги за свою продукцию фабрика получает не сразу. Из-за этого предприятие остается фактически без оборотных средств, а значит не может приобрести, например, натуральный мех — он для нас слишком дорог.

Знаю, что аналогичная ситуация и на Могилевской фабрике головных уборов. Думаю, каких-то перемен к лучшему в ближайшее время не будет, так что порадовать женщин, к сожалению, нечем.

**Вот такая неутешительная информация. А потом мне показали ассортиментный кабинет фабрики. Богатая цветовая палитра, разнообразие моделей — нет, такого в магазинах видеть не доводилось! Неужели и не доведется? А может, расстарается наша торговля да закупит головные уборы в России, где проблем с сырьем, видимо, меньше?**

Я ВАМ ПІШУ

# КУПІЦЕ КВЕТКУ НЕЗАБУДКІ...

**Аксана ХАРАНЕНКА, Аксана ШЫКУЦЬ.**

Ці даўно пасмейваліся са сваіх бабуль, якія зграбалі ў жменю крошкі хлеба са святочнага стала, каб потым цішком іх з'есці? Мы смяяліся, калі яны не дазвалялі нам выкінуць стаптаны абутак, зношаную рэч, маленькі кавалачак мыла. Тады мы казалі нашым старым: дзівакі!.. Але ж яны не звярталі ўвагі на гэтыя насмешкі. Ціхенька, моўчкі эканомілі. Няўжо яны прадчувалі? Няўжо чакалі? Ці гэта была несуцешная памяць галоднага дзяцінства і маладосці? А зараз яны кажуць: «Дажылі. Вяртаецца жабрацтва».

На рынку ў мясных радах усё нагадвала аб ранейшым сытым часе. Толькі ад цэн кружылася галава. Калі мы таргаваліся з тоўстай румянай прадаўшчыцай, раптам заўважылі, як нейкая бабуля схапіла кавалак мяса і хуценька запіхнула яго ў кішэню. Мы зразумелі, што гэтага ніхто не ўбачыў, уздыхнулі з палёгкай і паспяшаліся за ёй.

– Не пужайцеся нас, бабулька, адкажыце толькі, чаму вы гэта зрабілі?

Па яе шчаках каціліся слёзы, а вочы аднача́сова перапаўняліся жахам, турботай і жалем.

– Нікому не кажыце, нікому. Я есці хачу. З імі нічога не здарыцца, а мне, ведаеце, на тры дні хопіць. Не магу я жабраваць. Ужо лепей так...

Што нам заставалася рабіць: узяць яе за руку і адвесці ў бліжэйшы аддзел міліцыі ці пачаць сарамаціць перад людзьмі... Не ведаем, што, з пункту гледжання прававой дзяржавы, павінны былі сказаць ёй, але сказалі ў той момант тое, што на сэрца лягло: хай дапаможа Вам Бог.

Не добрае жыццё штурхае старых людзей на такія дзеянні. А што застаецца, калі «есці хочацца», калі не могуць угнацца мізэрныя пенсіі за ростам цэн. Дзесяткі тысяч пенсіянераў у Мінску апынуліся па-за мяжой беднасці. Хто ў сям'і, яшчэ неяк трымаецца — за агульным сталом лягчэй пракарміцца, а вось адзінокім...

Усё часцей у падземных пераходах сярод п'яніц і бамжоў сустракаюцца людзі састарэлага ўзросту, якія жабруюць. (Хто з працягнутай рукой, а хто... прадае свае хатнія кветкі.) Відаць, у іх раней былі любімая праца, нейкія здабыткі, але зараз усё «праглынула» інфляцыя.

...У падземным пераходзе, прытуліўшыся да сцяны, стаяла пажылая жанчына ў нядрэнным, але адслужыўшым ужо сваё, адзенні. Стаяла з баязліва працягнутай рукой, на якой ляжала скрынка з-пад запалак. А ўнутры — незабудка, што расла, напэўна, яшчэ не так даўно на яе акне. «Купіце, — прасіла жанчына, — гэта вельмі прыгожа». І мы купілі.

– Усё жыццё працавала бібліятэкарам. Пайшла на пенсію, хацела падзарабіць, але ж здароўе не дазволіла. Муж таксама хварэў. Два гады таму яго не стала. Пенсіі хапае дзён на дзесяць, як ні цягні, як ні старайся. Хацела хатнія кветкі прадаць, а потым падумала, што можна кожную кветачку асобна прадаць, калі прыгожа аформіць. Не жабраваць жа.

Як жа непадобны дзве гэтыя жанчыны! Але ж як яны стануць падобнымі, калі збядненне грамадства не спыніцца. Яны ўсё ж такі вымушаны будуць аднойчы, нягледзячы ні на што, працягнуць руку.

ОФИЦИАЛЬНЫЙ ОТДЕЛ

# ДЕКЛАРАЦИЮ О ДОХОДАХ НАДО СДАТЬ ВОВРЕМЯ. И БЕЗ ОШИБОК

**Иосиф ЧЕБОТАРЕВИЧ, начальник налогообложения физических лиц Государственной налоговой инспекции при Кабинете министров Республики Беларусь по г.Минску.**

Хочу напомнить предпринимателям, что независимо от того, имели они доходы или нет, годовая декларация должна представляться не позднее 15 февраля. При этом не принимаются во внимание ссылки граждан на занятость, командировки, посещение родственников за границей и на другие причины, так как декларацию можно подать заблаговременно (до начала года) или выслать по почте. В ней должны быть отражены все полученные в течение года доходы.

При приеме деклараций инспекторы будут проверять правильность заполнения всех ее разделов и граф, сверять суммы доходов по декларации, тетради учета и корешкам отрывных талонов, уплату налога на добавленную стоимость, на топливо, экологического и акцизного налогов, перечислений в фонд занятости. К декларации должны прилагаться реестр со сведениями о выплатах гражданам и удержанных с них налогах по ставкам статьи 18 Закона Республики Беларусь «О подоходном налоге с граждан», а также реестр основных средств и расчет сумм амортизации для отнесения на затраты.

Напомню, что при перепроверке достоверности доходов, отраженных в декларациях за 1993 год, налоговыми инспекциями г.Минска допричислено в виде налога и финансовых санкций более 1 млрд. рублей.

Главным образом, это изъятие сокрытого дохода, выручки за нарушение порядка реализации за наличный расчет, дохода, полученного без лицензии (включая штрафы в размере дохода), недобор подоходного налога. Как правило, скрываются, неполностью отражаются в учете и декларации полученные доходы от продажи товаров предприятиям и комиссионным магазинам, они же занижаются путем неправильного отражения затрат и представления поддельных документов.

При заполнении декларации следует обратить внимание на то, что малоценные и быстро изнашивающиеся предметы относят к затратам на сумму до 10-ти минимальных заработных плат в год (50 процентов сразу, остальная часть — по мере выбытия). Учитывая, что во многих случаях предпринимателями допускаются злоупотребления, налоговые инспекции при проверках будут обращать внимание на отнесение к расходам только тех затрат, которые связаны с извлечением доходов. Командировочные расходы наемных работников относятся в затраты полностью. У предпринимателей — только затраты на проезд и проживание (при документальном подтверждении и при полученных доходах, совершенных сделках). Это же относится и к оплате телефонных разговоров по домашним телефонам.

Чтобы исключить подобные нарушения, рекомендуем предпринимателям при заполнении декларации данные расходы выделять отдельной строкой. Необходимо также ознакомиться со ставками налогообложения доходов предпринимателей (обсчитаны исходя из годовой минимальной заработной платы за 1994 год в сумме 107,0 тыс. рублей).

Этот же размер годовой минимальной заработной платы — 107,0 тыс. рублей — применяется при предоставлении льгот по подпункту «Ч» пункта I статьи 3 и по пункту 2 статьи 4 Закона.

При расчете авансовых платежей на 1995 г. применяется таблица ставок статьи 18, действующая на момент исчисления налога.

| Сумма дохода (руб.) | сумма налога до 1070000 12% с суммы дохода |
|---|---|
| от 1070001 до 1605000 | 128400 руб. + 15% с суммы, превышающей 1070000 руб. |
| от 1605001 до 2140000 | 208650 руб. + 20% с суммы, превышающей 1605000 руб. |
| от 2140001 и выше | 315650 руб. + 30% с суммы, превышающей 2140000 руб. |

## НАСТАЎ ЧАС РАЗАБРАЦЦА З ФОНДАМІ

Міністэрствам статыстыкі і аналізу рэспублікі ў адпаведнасці з пастановай Кабінета міністраў Беларусі зацверджаны парадак пераацэнкі асноўных фондаў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. Яна праводзіцца на 1 студзеня для стварэння дадатковых інвестыцыйных рэсурсаў і эканамічна абгрунтаваных умоў для фарміравання сродкаў па іх аднаўленню. Тэкст гэтага дакумента атрымаў «дабро» ў Міністэрстве эканомікі і Міністэрстве фінансаў.

Пераацэнцы падлягаюць будынкі (акрамя жылых), збудаванні, машыны і абсталяванне, розныя прыборы і ўстройствы, інструменты, вылічальная тэхніка, транспартныя сродкі, вытворчы і гаспадарчы інвентар, бібліятэчныя фонды і іншыя незалежна ад іх зносу.

Прадпрыемствам і арганізацыям прапанавана пераацэньваць свае фонды двума спосабамі: шляхам індэксацыі першапачатковага кошту з выкарыстаннем каэфіцыентаў пераліку або па ўзроўню цэн на 1 студзеня 1995 года.

**БЕЛІНФАРМ.**

# НА МЯКІНЕ НЕ ПАДМАНЕШ

Нядаўна пачуў па радыё ў перадачы «Пазіцыя» выступ нейкага Арлова. Спачатку здалося, што гаворыць добра вядомы спадар Антановіч, але чую, што гэты Арлоў хлусіць больш нахабна. Крытычныя стрэлы так і сыпаліся ў адрас БНФ: маўляў, такі-сякі Фронт, не хоча падтрымліваць вельмі добрую праграму Прэзідэнта. Можа, яна і добрая, але ж і папярэднія кіраўнікі таксама мелі не горшыя праграмы. Што да іх выканання... Па праграме камуністаў мы не абагналі, а, наадварот, адсталі ад заходніх краін на 50 гадоў. Па праграме Гарбачова ды Рыжкова замест перабудовы ды «ускорения» наогул разваліў эканоміку. Па вельмі добрай праграме Кебіча (ад якой мала чым адрозніваецца праграма Лукашэнкі) мы адсталі ад краін СНД гэтак гадоў на 10.

А вось ужо прыклады сённяшняга дня. У А.Лукашэнкі цвіком перадвыбарнай праграмы была барацьба з карупцыяй. Памятаеце, ён казаў, што калі стане Прэзідэнтам, — Кебіч будзе ў турме, а з ім яшчэ 70 зладзеяў. У савецкіх судах усё «пропито и продано». Дык каго ж пасадзілі? Нікога. Дарэчы, праграму барацьбы з карупцыяй БНФ надта актыўна падтрымлівае, хіба Арлоў не чуў, аб чым гаворыць Сяргей Антончык? Ці, можа, ужо Лукашэнка адмовіўся ад гэтай праграмы?

Сёння ўлады шмат гавораць і аб сацыяльнай абароне слабых... А на справе? Я інвалід 2-й групы з паралізаванымі нагамі, 20 гадоў карыстаюся інваліднай мотакаляскай. Раней мне гэту мотакаляску своечасова рамантавалі, замянялі і давалі на дзень адзін літр бензіну. Цяпер жа па праграме «неотложных мер» замяніць адмовіліся, рамантаваць, кажуць, «не положено», а бензіну замест літра даюць толькі 30 грамаў. Так што «неотложные меры» маё становішча пагоршылі ў 20 разоў, а вось кебічаўскія чыноўнікі (пабудаваўшы палацы і замкі) палепшылі сабе яго ў 100, а мо і болей разоў! Ну, дык як жа я магу падтрымліваць такую праграму, якая багатых робіць яшчэ багацейшымі за кошт іншых, нават інвалідаў? Узяць тую ж кватэрную плату, якой нас палохаюць колькі часу. Мае суседзі, дзве сям'і, жывуць у 2-пакаёвай кватэры, усе 5 чалавек працуюць на заводзе, супольны даход — 1000000. Дык вось, яны будуць плаціць за тое, што так «шыкоўна» жывуць, 150000 руб. А другі былы сусед (ён жа — былы сакратар партыі камуністаў) адхапіў сабе на дваіх аж 4-пакаёвую кватэру. Зараз ён пенсіянер, супольны даход — 300000, таму плаціць будзе толькі 45000 рублёў.

Аднак, па Арлову, — гэта вельмі добрая праграма. Але БНФ, як ён скардзіцца, выступае чамусьці супраць. Не дзіўна, бо за яе могуць «агітаваць» толькі Кебічы, Місуны, Камаі, Авіны ды сам Арлоў.

А старшыня беларускіх прафсаюзаў Ганчарык гэту праграму катэгарычна не падтрымлівае. Ён адназначна выказаўся супраць і цвёрда заявіў: людзі плаціць за кватэры на такіх умовах не будуць! Я разумею гэта як прызыў. Нават наш парламент і той не захацеў зразумець спадара Чыгіра, які з высокай трыбуны ледзь не кляўся: маўляў, людзі мяне разумеюць і падтрымліваюць. Так, шаноўны спадар Чыгір, разумеем. І таму заяўляю: не трэба ўскладваць усе свае праблемы і недапрацоўкі на плечы такіх, як я. Не выедзеце вы ў рай за кошт абрабавання інваліда ці таго, хто не мае кватэры, але вы хочаце прымусіць яго плаціць за іншых, хто нахабна адхапіў задарма шыкоўныя палацы. На мякіне нас ужо не падманеш.

**Мікола ЛУКАНСКІ, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ветэран Узброеных Сіл, інвалід 2–й групы.**

